ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 75 (1712) | Аўторак, 18 верасня 1962 года | Цана 4 кап.

## СВЕДЧАННЕ ЛЮБВІ

У Маскве, у магазіне літаратуры народаў СССР, вялікай папулярнасцю карыстаюцца беларускія кнігі. Цікавасць наведальнікаў да твораў беларускай літаратуры асабліва ўзрасла, калі адзначалася 80-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы, калі Пятрусь Броўка быў удастоен ганаровага звання лаўрэата Ленінскай прэміі за паэтычны зборнік «А дні ідуць».

Цяпер увага маскоўскіх кнігалюбаў прыцягнута да твораў народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Вось група школьнікаў са сваім настаўнікам аглядае кніжную выстаўку, прысвечаную песняру беларускага народа, а студэнты МДУ знаёмяцца з каталогам кніг і літаратурай аб яго творчасці.

У магазіне сабраны ўсе пасляваенныя выданні паэта: асобныя творы, томікі выбраных і поўных збораў твораў, у якіх прадстаўлена паэтычная спадчына Якуба Коласа, яго змястоўная проза, драматургія і палымяная публіцыстыка. Акрамя выданняў на роднай мове, у беларускім аддзеле ёсць шматлікія творы Якуба Коласа, перакладзеныя на рускую мову і мовы народаў нашай краіны. Попыт на творы паэта — сведчанне велізарнай любві да яго шматмільённага савецкага чытача.

17 верасня 1939 года — знамянальны дзень у жыцці нашай рэспублікі. 23 гады іназад перад працоўнымі заходніх абласцей Беларусі адкрыўся шлях у светлую будучыню. За гэтыя гады непазнавальна змянілася аблічча гарадоў і вёсак былой Заходняй Беларусі. Але ў памяці жывуць дні незабыўнай сустрэчы воінаў Савецкай Арміі з жыхарамі. Адну з такіх сустрэч адлюстраваў у сваёй лінагравюры мастак С. Герус.



# БЕЗ СУМЛЕННЯ ЦЯПЕР НЕ ПРАЖЫВЕШ

Сцяпан КУХАРАЎ

ГЭТА БЫЛА выпадковая дарожная сустрэча, адна з тых сустрэч, якія даюць нашаму брату-газетчыку натхненне. На Магілёўскім вакзале я чакаў пасадкі на поезд Магілёў — Мінск. Не заўважыў, як на лаўцы, побач, прысела пажылая, дробнатварая жанчына, з маленькім вузельчыкам на каленях. Слова за словам — разгаварыліся.

— Ездзіла да сынка, — неяк сцішана, з бляскам у вачах сказала жанчына. — Мой большанькі — Васілёк — служыць у войску. Засумавала па ім і пераведала. І зняліся на картку. Стала гэтак побач і нас зазнялі...

Разгаварыўшыся, цётка Аксіння — так назвала сябе жанчына — расказала, пра сваё жыццё, пра свой лёс пакінутай жонкі, якая адна выгадавала траіх дзяцей. І выхавала так, як трэба. За дзяцей людзі яе не папракнуць. Аксіння шчыравала і на полі, і дома несла цяжкую ношку. У брыгадзе ўсе дзівіліся, як гэта яна ўпраўляецца адна. Дзівіліся і памагалі. На шчырасць адказвалі шчырасцю.

Калгас дапамог Аксінні збудаваць дом, вывесці дзяцей у людзі.

Жанчына ўсё расказвае і расказвае. І я ўжо ўяўляю яе вёску Новае Сяло, на Мсціслаўшчыне, дзе ўсё адбудавана на былой пустэчы, і пранікаюся павагай да старшыні навасёлаўскага калгаса, які прыйшоў на праводзіны сына ўдавы ў армію і паклаў на стол падарунак.

Маленькая, з мазольнымі рукамі, якія ўвесь час не ведаюць спакою, папраўляючы то вузельчык, то хустку, цётка Аксіння адчувала сябе шчаслівым чалавекам. У яе прыжмураных вачах свяцілася матчына радасць. У калектыве, акружаная павагай і дабратой людзей-землякоў, яна справілася са сваім горам, якое звалілася ёй на плечы.

Гэта было пад восень. Самае што работа ў вёсцы. І таксама нібы здагадаўшыся пра гэта, Аксіння сказала:

— А я, калі прасілася да сына, дык пашчыравала. Першай дажала сваю пайку-дзялянку. А як жа, трэба працаваць, за цябе ніхто не зробіць...

Чытаючы артыкул украінскай калгасніцы Надзеі Рыгораўны Заглады пра гонар хлебароба, я прыгадаў цётку Аксінню з Новага Сяла, прыгадаў шмат якіх сельскіх працаўнікоў, якія ўсёй душой любяць зямлю, аддаюць усе сілы і здольнасці дзеля яе росквіту. Яны — людзі з чыстым сумленнем, якія без шуму і крыку робяць сваю справу. І за гэта ім — усенародная пашана!

На канкрэтных, блізкіх прыкладах Н. Р. Заглада даводзіць, што сумленне — гэта душа чалавека, яго характар, яго адносіны да той працы, якая ў яго руках. Сумленне, як сказала Надзея Рыгораўна, не пакладзеш на вагі, яно — люстра тваёй душы, яно — тваё жыццё.

Калі ў чалавека чыстае сумленне, ён не дазволіць сабе жыць за кошт іншых, не будзе хавацца за спіны другіх. Яму не патрэбны ніякія кантралёры, даручаную справу ён будзе рабіць сумленна і шчыра, і лепшы ў яго кантралёр — яго свядомасць, сумленне.

Мы выйшлі на рубяжы, якія нас з кожным годам набліжаюць да запаветнай мэты — да камунізма. Вёска — сёння ўдарны фронт, пярэдні край дзе ствараецца ўсенародны дастатак, адкуль папаўняецца чаша народнага багацця. І радасна, што і ў вёсцы нараджаюцца людзі з новымі якасцямі, з тымі якасцямі, якія так яскрава пададзены ў маральным кодэксе будаўніка камунізма.

Такіх людзей, людзей будучыні, у нас многа. Іх становіцца з кожным днём больш.

Яны ёсць у кожным калгасе і саўгасе. Яны побач з табой. Здаецца, што яны не зрабілі нічога выключнага, але гэта толькі здаецца на першы погляд — іх будзённая, цяжкая праца хлебароба і ёсць той подзвіг, які заслугоўвае самай высокай павагі і ўзвелічэння.

У вёсцы на першае месца ў чалавеку ставяць працавітасць. Даруюць табе нейкія твае слабасці і хібы, але гультайства не даруюць. Калі ты рупішся толькі пра сябе, сядзіш на сваім седале, не дбаеш пра тую работу, якая даручана калектывам, — павагі не чакай. І там, дзе кіраўнікі рашуча паўстаюць супраць гультаёў і дармаедаў, супраць калымшчыкаў, там і большыя вынікі, там гаспадарка шпарчэй ідзе ўгору. Бывае, што гультая прабярэ сам жа сусед не горш за старшыню ці брыгадзіра, але ж у гэтай справе іх роля — роля кіраўнікоў — незамянімая.

Мне давялося чуць, як аднойчы на калгасным двары на Краснапольшчыне счапіліся два калгаснікі. Стары вартаўнік прабіраў аднаго дзябёлага здаравяку, які прыйшоў, каб узяць каня для работы на прысядзібным участку.

— Ты што ж гэта, Цімошка, ужо бульбачку надумаў абагнаць, — загарадзіў уваход у канюшню стары. — У цябе ўжо, бач, парасла... А на калгаснай рабоце цябе нешта не відаць, чалавеча!..

— Не твая справа, стары ёлапень, — вырачыў нахабныя вочы Цімох. — Мне брыгадзір дазволіў...

— Ага, дык брыгадзір! — злосна бліснуў вачамі вартаўнік. — Добра ж, зараз я пайду, пашукаю старшыню. Ён табе пакажа, як выкаблучвацца. Далажу і на цябе і на брыгадзіра!..

І стары зачыніў на зашчапку вароты.

— А каня, Цімошка, не атрымаеш!

Лаючыся, Цімох паплёўся дадому.

Насталі новыя часы. У апошнія гады, як ніколі раней, радавыя, простыя калгаснікі ўздымаюць свой голас супраць дармаедаў, якія яшчэ сям-там схаваліся за спіной сумленных вясковых працаўнікоў. Цікава, што лайдакоў і хціўцаў меней за ўсё сустрэнеш у тым калгасе, дзе строгі і чалавечны старшыня, дзе моцны актыў, дзе баявыя партыйная і камсамольская арганізацыі.

З усіх неабходных якасцей, якімі павінен валодаць сённяшні кіраўнік арцельнай гаспадаркі, мне хочацца паставіць на першае месца чуласць, чалавечнасць старшыні калгаса. Мне здаецца, калі няма ў старшыні гэтай якасці ў характары — ён дрэнны будзе гаспадар, яго рана ці позна прагоняць калгаснікі. І яшчэ — каб старшыня быў прынцыповы і справядлівы. Няшчырасць, няўвага да чалавека, які нясе цяжар працы ў калгасе — гэта вялікі пралік у метадзе кіраўніка, кропля, якая ўпадзе на яго ж галаву і адгукнецца гневам у чалавечых сэрцах.

Людзі — гаспадары зямлі. Стваральнікі здабыткаў, якімі поўніцца камуністычная крыніца багацця. І павага да яго — чалавека-працаўніка — найпершая ўмова для яго творчага натхнення і ўзлёту.

Да старшыні калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна Уладзіміра Калачыка прыйшла пажылая калгасніца.

— Уладзімір Міхайлавіч, — сказала яна, — хата ў мяне старая, забурыцца, мусіць...

— Ведаю, Параска Амяллянаўна. Думаў я ўжо. Збіраўся пагаварыць з вамі, як памагчы вашай справе...

— А што тут доўга гаварыць — хату адрамантаваць памажыце!

— Канешне, памагчы трэба, — разважліва гаворыць старшыня. — Але ці варта трацціца... А што калі, Параска Амяллянаўна, пабудаваць новую... Як думаеце?..

— Не здужаю я, Уладзімір Міхайлавіч. Цяжкавата мне адной...

— Паможам. Не хвалюйцеся, цётка Параска, будзеце жыць у новай хаце!

І жанчына пайшла. Нібы паляцела на крыллях. Можна не сумнявацца, яна будзе працаваць яшчэ лепш. Яна ўпэўнена, што кіраўнік калгаса, праўленне не памятаюць пра асабістыя патрэбы сумленных працаўнікоў, што калгас — іх надзейная апора, у цяжкі час прыйдзе на дапамогу і не пакіне ў бядзе.

Між іншым, Калачык — яшчэ не стары чалавек і стаж старшынёўства ў яго невялікі. І гэтай чалавечнасці, чуласці ён не вучыўся ў нейкай асобнай школе. Ён такі ж звычайны вясковы чалавек, якому землякі даручылі адказную пасаду.

Бывае, на вялікі жаль, і такое.

Ідзе па дарозе чалавек. Восень. Слата. Чалавек ледзь выцягвае чаравікі з гразі. За плячыма муляе хатулёк. Міма праносіцца грузавік, абдае старога пырскамі гразі. З кабіны выглянула напышлівая, задаволеная міна — старшынёў твар.

— Гэй, Фёдар Сямёнавіч, — крычыць стары і махае рукою, — падвязі, братка!..

Стары спадзяваўся, што старшыня спыніцца. Ён во дзён з пяць, як працаваў у гэтага старшыні, рабіў падмурак для яго новага дома. І ўсё лета працаваў на фермах: мураваў шулы новага кароўніка, умазваў катлы на кармакухні.

Грузавік жа знік за ляском.

Даклыпаўшы да наступнай вёскі, стары ўбачыў ля сельмага гэты ж знаёмы грузавік. З крамы выходзіў расчырванелы задаволены старшыня. Заўважыў старога, які плёўся побач, і яму стала неяк не па сабе. Ухмыляючыся, ён кінуў:

— Ты не крыўдуй, дзед, што не спыніўся — тармазы няспраўныя.

— Я так і ведаў, — махнуў рукою стары.

Гэта, на жаль, нявыдуманы факт. Не хочацца называць прозвішча старшыні, бо чалавек ён яшчэ малады, і яму гэта будзе добрым урокам.

З практыкі іншых кіраўнікоў яшчэ не выкаранены абыякавыя адносіны да людзей, якія нясуць увесь цяжар на рашаючых участках арцельнай працы. Бывае, што жанчыны, якія дзень пры дні ідуць на поле, на фермы, не маюць магчымасці дагледзець усё дома, навесці парадак у гаспадарцы. У дадатак да ўсяго на іх руках — дзеці. А ў брыгадзіра ўсё не даходзяць рукі, каб даць ім у першую чаргу каня ці аўтамашыну падвезці дроў, прыдбаць матэрыял на рамонт хаты. Іншы раз людзі, на якіх трымаецца ўся праца ў брыгадзе, не адчуваюць належнай падтрымкі з боку брыгадзіра і праўлення.

Той, хто добра працуе, хто не шкадуе сіл для калгаса, павінен і жыць лепш. Яму — уся ўвага і пашана.

Зямля — наша невычэрпная крыніца багацця. Чалавек заўсёды спадзяецца на яе — сваю карміцельку. Пры калгасным ладзе, калі зямля стала ўсенароднай, адкрыліся неабмежаваныя магчымасці для яе росквіту. Стаўшы гаспадаром зямлі, працоўны чалавек робіць на ёй цуды.

Сёння, узняўшыся ў зорнае неба космасу, штурмуючы таямніцы Сусвету, наш савецкі чалавек з асаблівай настойлівасцю, з небывалым натхненнем упрыгожвае зямлю, нястомна здабывае скарбы, якія даюць людзям жыццё.

На нашым шляху, на неабсяжных палявых прасторах, дзе расквітнела творчая калектыўная праца, ёсць яшчэ перашкоды, ёсць сярод кветак і палынтрава, якую трэба палоць; ёсць яшчэ купінкі, якія неабходна раўняць, прасаваць...

Вось чаму сёння, калі з'явіліся першыя ўсходы на камуністычнай ніве, з асаблівай сілай гучаць словы чалавека, умудронага жыццём.

«Дык трэба ж, нарэшце, усім зразумець, — ушчувае Надзея Рыгораўна Заглада, — без працы, без сумлення цяпер не пражывеш, не возьмеш тых тэмпаў, якія запланаваны партыяй».

Як гэта трапна і шчыра!

Уславім жа працу і жыццё хлебароба, каб яго імя гучала горда, на ўвесь свет.



Галя Тапырык працуе кінамеханікам у Палацы культуры будаўнічага трэста № 5 сталіцы. Яна задаволена сваёй работай, выконвае яе добрасумленна. Але такая характарыстыка будзе няпоўнай, калі не дадаць, што ў Галі дапытлівы розум, пастаянная незадаволенасць зробленым. Яна лічыць, што фільмы можна дэманстраваць лепш, што гукавая апаратура патрабуе ўдасканалення, што кожны кінамеханік павінен вучыцца і прымаць удзел у грамадскім жыцці. Так Галя і робіць. Яна дамагаецца выдатнай дэманстрацыі фільмаў. Наведвальнікі Палаца культуры ахвотна глядзяць карціны, якія дэманструе Галя. Яны ведаюць, што паказ і гук будуць добрымі. Свае веды Тапырык удасканальвае. Яна вучыцца на вячэрнім аддзяленні палітэхнікума на факультэце абсталявання кінаўстановак. Галя — актыўная ўдзельніца мастацкай самадзейнасці.

Фота Ул. КРУКА.



# НАША МАРКА — НАШ ГОНАР

*По просьбе нашага карэспандэнта работнікі некаторых галін беларускай індустрыі расказалі аб характары сучасных паставак, якія ажыццяўляе наша рэспубліка для замежных краін. Разнастайныя гэтыя пастаўкі. Край, які калісьці пастаўляў на ўсерасійскія кірмашы лыка для лапцяў, каноплі, ракаў, стаў сусветным экспарцёрам складанейшай тэхнікі, дасканалых машын. На гэтых машынах красуецца беларуская марка.*

## «МАЗы» на берагах Ніла

Дзень і ноч не заціхае на берагах далёкага Ніла шум вялікай будоўлі. Дзень і ноч працуюць ля Асуана калоны беларускіх аўтамабіляў.

Як яны паводзяць сябе на афрыканскай зямлі, нашы праслаўленыя машыны, ці не падводзяць?

— Не, не падводзяць, — сказаў нам начальнік аддзела экспарту і замежных сувязей Беларускага Саўнаргаса Яўгеній Мікалаевіч Канаплін.

З прычыны цвёрдасці грунтаў, работы ў Асуане вядуцца выключна ўзрыўным спосабам. Перавозка вялікай колькасці пароды павялічыла нагрузку на аўтамабілі, але яны спраўляюцца з ёю паспяхова.

На адкрытых выпрацоўках выкарыстоўваюцца вялікагрузныя «МАЗ-525».

«МАЗ-205» працуе на вывазцы граніту з вадаскідных тунелей. Як вядома, машына гэта разлічана на перавозку сыпучых матэрыялаў. З улікам характару грузаў у «МАЗе» зменены кузаў, ён цяпер гандольнага тыпу. Асуанскі граніт выключна моцны, вострыя яго краі, як нажом, рэжуць днішча кузава. Нашы інжынеры спецыяльна ўмацавалі днішча, і цяпер яму не страшны скальныя пароды.

Трэці прадстаўнік сям'і «МАЗаў» — «МАЗ-200» выкарыстоўваецца для транспарціроўкі звычайных грузаў.

Для абслугоўвання аўтамабільнага транспарту на Асуане створана шмат рамонтных майстэрань. Усе станкі ў гэтых майстэрнях — беларускія.

У Егіпце выкарыстоўваюцца таксама каронказаточныя станкі «ВЗ-30», вытворчасці Віцебскага завода заточных станкоў.

Землясосы на Асуане бабруйскія — машынабудаўнічага завода імя Леніна.

Характэрна, што ўсю гэту складаную тэхніку паспяхова асвоілі егіпецкія спецыялісты. Паводле іх водгукаў нашы машыны лепшыя за аналагічныя ўзоры з іншых краін.

— А дзе можна сустрэць цяпер беларускія трактары?

Іх многа ў той жа Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы. Трактары ў нас купляюць таксама Індыя, Грэцыя, Францыя. Я не называю краіны народнай дэмакратыі, марка «МТЗ» там даўно добра вядома. Характэрна, што нават такая развітая капіталістычная краіна, як Францыя, аддае перавагу беларускім трактарам.

Адзначу яшчэ адзін факт. Федэратыўная Рэспубліка Германія купіла ў нас папярочнастругальныя станкі вытворчасці Гомельскага станкабудаўнічага завода, а Францыя і Японія — падоўжна - стругальныя станкі Мінскага завода імя Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Гэта дзяржавы са славай сусветных экспарцёраў, у іх багатыя традыцыі ў станкабудаванні. Але часы, як кажуць, мяняюцца.

За апошнія гады многае зроблена для паляпшэння вонкавага выгляду прадукцыі, якую выпускаюць беларускія прадпрыемствы.

## ШКЛО ВЫСОКАЙ ЯКАСЦІ

— Шкляная вытворчасць у Беларусі — традыцыйная, яна існуе многія гады, — сказаў нам старшы інжынер вытворча - тэхнічнага аддзела шкла Упраўлення прамысловасці будаўнічых матэрыялаў Г. Губскі. — Але ніколі яшчэ беларускія вырабы са шкла не карысталіся такім шырокім попытам на міжнародным рынку.

На нашых вачах шкло ўладна ўварвалася ў будаўніцтва, у электратэхнічную, тэкстыльную прамысловасць. Старажытны матэрыял перажывае сваё другое нараджэнне.

Жылыя дамы і прамысловыя збудаванні, аснову якіх складаюць бетон, сталь, шкло, — гэта ўжо не архітэктура будучага. Гэта архітэктура нашых дзён.

Адным з асноўных прадпрыемстваў Беларусі, якія пастаўляюць шкло будоўлям, з'яўляецца Гомельскі шклозавод. Мы глядзім з вокнаў новых кватэр праз гомельскае шкло. Люстранае шкло гамяльчан — у вітрынах магазінаў, у новых кіёсках на вуліцах.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца гомельскае шкло за рубяжом. Толькі ў 1962 годзе заказы на яго паступілі з Канады, Кіпра, Туніса, Бірмы, Таіланда.

«Шкло высокай якасці, яснае, незамутнелае», — сведчаць замежныя заказчыкі.

Гомельскія шкляробы бачаць у гэтым не толькі пахвалу сваёй прадукцыі, яны хочуць, каб і ў Канадзе і на далёкім Кіпры, усюды людзі праз чыстае шкло глядзелі на свет.

У 1957 годзе ўведзена ў строй важнае прадпрыемства шкляной прамысловасці Беларусі — Полацкі завод штучнага шкловалакна. Гэта таксама прадпрыемства будучыні. Але ўжо цяпер яго прадукцыя знаходзіць усё большы збыт і ў нас і за рубяжом. Румынія, Карэя, Чэхаславакія, Венгрыя, Балгарыя скарыстоўваюць полацкае шкловалакно для электрычнай цеплаізаляцыі, для вырабу дэкаратыўных тканін. Пяць год — невялікі тэрмін, але прадпрыемства паспела ўжо зарэкамендаваць сябе. Яно не атрымала ніводнай рэкламацыі. На яго ідуць добрыя водгукі з Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, Індыі, Мангольскай Народнай Рэспублікі, Кубы, Карэі.

Але якімі б ні былі яны — новыя дамы, ізаляцыя, тканіны, — чалавеку патрэбны шклянкі, збанкі, бакалы, — штодзённыя яго спадарожнікі ў быце. Бытавое шкло хай і мяняе сваю форму, не змяняе свайго прызначэння.

Беларускія шклянкі можна сустрэць у Іране, Афганістане, Манголіі.

Вясной у Мінск прыехаў прадстаўнік буйнай англійскай фірмы.

— У нас у Англіі добра вядома прадукцыя шклозавода «Нёман», — заявіў ён. — Англійскія пакупнікі ахвотна купляюць вашы прыборы для вады, чаркі, бакалы, фужэры, вазачкі для цукерак. Вабяць нас іх сучасная форма, якасць.

Пасля паездкі на шклозаводы, прадстаўнік англійскай фірмы заключыў кантракт на пастаўку ў Англію вырабаў са шкла і крышталю на 150 тысяч рублёў.

## СЛАВА МІНСКАЙ «ЗАРЫ»

Тавараведа аддзела збыту Мінскага гадзіннікавага завода Зою Асавіцкую мы засталі за запаўненнем бланка нарада.

— Скажыце, куды ідзе сёння прадукцыя завода? — спыталіся мы.

— Сёння мы адпраўляем партыю гадзіннікаў Польскай Народнай Рэспубліцы. Я якраз занята афармленнем заказа.

— У якія адрасы ідуць грузы?

— На нашых нарадах — назвы ўсіх буйнейшых гарадоў Польшчы: Варшавы, Кракава, Катовіц, Быдгашча, Вроцлава. Катовіцы, напрыклад, заказваюць адразу 734 гадзіннікі «Зара» ў анадзіраваным корпусе.

Польшча, паведамляюць далей работнікі аддзела збыту, буйнейшы заказчык на беларускія гадзіннікі. Пастаўкі ў братнюю краіну працягваюцца ўжо каля двух год. Другі пасля Польшчы спажывец прадукцыі — Чэхаславакія. Далей ідуць Балгарыя, Румынія, Венгрыя, Італія, Афганістан, Англія.

— Ці папулярныя нашы гадзіннікі за граніцай?

Зоя Асавіцкая толькі што вярнулася з турысцкай паездкі ў Балгарыю.

— Я спецыяльна цікавілася, — расказвае яна, — як прадаюцца нашы гадзіннікі. Зайшла ў адзін магазін, там якраз жанчына купляла нашу «Зару» ў жорсткім бранзалеце. Прадаўшчыца паведаміла, што гэты гадзіннік карыстаецца асаблівым попытам. Добра адгукваліся аб нашых гадзінніках і чэхаславацкія турысты, з якімі мы сустракаліся ў Балгарыі.

Гадзіннікі, як і адзенне, падпарадкуюцца модзе. Як на заводзе ўлічваюць патрабаванні пакупнікоў, у тым ліку зарубежных?

На выстаўцы гадзіннікаў, якая нядаўна праводзілася ў сталіцы рэспублікі, можна было ўбачыць дзве новыя мадэлі Мінскага завода. Гадзіннік «Зара» будзе выпускацца на ланцужку, у выглядзе медальёна, з наборам каляровых шкельцаў, якія жанчыны змогуць мяняць у залежнасці ад туалета. Дэманстраваў завод таксама мужчынскі наручны гадзіннік з сучасна аформленым цыферблатам — «Вымпел». Значная частка гэтых мадэляў у наступным годзе пойдзе на экспарт.

## НА ЭКСПАРТ — ЦАЦКІ

— Наша рэспубліка вядома цяпер за мяжой не толькі машынамі і дакладнымі механізмамі, але і цацкамі, — расказвае выконваючая абавязкі галоўнага інжынера «Белмастацпрамтрэста» Г. Люліна.

Фабрыка «Культпром» у Мінску выпускае набор «Юны сталяр». Разлічаныя для дзіцячых рук інструменты — рубанак, малаток, піла, рэйсмус, вугольнік з малых год прывучаюць дзяцей да працы. Гэты выдатна выкананы набор карыстаецца папулярнасцю ў многіх краінах, але асабліва вялікія заказы паступаюць на яго з Англіі. У мінулым годзе «Юны сталяр» быў прададзены 25 тысячам англійскіх дзяцей, у гэтае паўгоддзе паступілі заказы яшчэ на 12 тысяч.

Фірма «Ван Рэстэнборг энд зонен» у Галандыі заказала фабрыцы «Культпром» 11 тысяч настольных більярдаў «Паляванне». На маляўнічым полі більярда — звяры і птушкі беларускіх лясоў і азёраў. Другі арыгінальны більярд «Калабок» зроблен па матывах народнай казкі. На яго асабліва вялікі попыт у далёкай Манголіі.

Дзеці за рубяжом гуляюць у зробленыя ў Беларусі гульні: «Хто далей», «Юны архітэктар», «Электрапоезд», «Спадарожнік зямлі».

Характэрна геаграфія рынку цацак. Але яшчэ больш характэрны іх асартымент. Нашы дзеці не гуляюць у атамныя бомбы і с а м а лёты-ракетаносьбіты. Мы выхоўваем іх у любві да працы, да мірнага жыцця на зямлі. Пра гэта сведчыць і наш экспарт.

## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ТАВ. СКУРКО Я. І. (МАКСІМА ТАНКА) ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Улічваючы заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння, узнагародзіць галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», пісьменніка тав. **Скурко** Яўгена Іванавіча (Максіма Танка) Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
В. КАЗЛОЎ.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Д. ЛУКАШЭВІЧ.

15 верасня 1962 года, гор. Мінск.

## У ВЫКАНАННІ АНСАМБЛЯ ЛІЛІПУТАЎ

На сцэне Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна адбыліся выступленні тэатралізаванага ансамбля ліліпутаў Львоўскага тэатра казак. Юным гамяльчанам былі паказаны спектаклі «Церамок», «Мыйдадыр» і кітайскі спектакль-пантаміма «Чарадзейны веер». Школьнікі і дарослыя, якія пабывалі на спектаклях, засталіся задаволенымі.

В. СЯМЕНАЎ.

**ДА АДКРЫЦЦЯ СІМФАНІЧНАГА СЕЗОНА**

# БУДЗЕ ГУЧАЦЬ ЛЕПШАЯ МУЗЫКА

**А. ЛАДЫГІНА**

Набліжаецца адкрыццё ў Мінску сімфанічнага сезона 1962-63 г. Музыканты вярнуліся з адпачынку і прыступілі да напружанай творчай працы.

Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР па праву лічыцца адным з лепшых аркестраў нашай краіны. За многія гады існавання беларускага аркестра ў ім склаўся моцны калектыў, выпрацаваліся пэўныя традыцыі. З прыходам у аркестр у 1956 годзе маладога здольнага дырыжора В. Дуброўскага значна павысілася выканаўчая культура музычнага калектыву, узбагаціўся яго рэпертуар, больш разнастайнай і тонкай стала палітра. Патрабавальны найперш да сябе, В. Дуброўскі, які старанна рыхтаваўся да рэпетыцый і добра ведаў кожную ноту партытуры, заражаў сваім энтузіязмам усіх музыкантаў. Ім аказаліся па сіле складаныя творчыя задачы. Пра гэта сведчыла выкананне найцяжэйшых сімфанічных партытур С. Пракоф'ева і Д. Шастаковіча, Р. Вагнера і Р. Штрауса, К. Дэбюсі і М. Равеля. У беларускую сталіцу ахвотна пачалі прыязджаць выдатныя савецкія і зарубежныя салісты-інструменталісты. Д. Ойстрах і Л. Коган, С. Рыхтэр і В. Кліберн, М. Растраповіч і Д. Шафран, П. Серабракоў, В. Клімаў і многія іншыя знайшлі ў Мінску вартых партнёраў, чулых музыкантаў.

Так павышалася майстэрства нашага сімфанічнага аркестра, набіраўся вопыту, набываў папулярнасць і яго галоўны дырыжор, які стаў заслужаным артыстам БССР.

Але... медаль меў і адваротны бок. В. Дуброўскі набыў у нас не толькі вопыт і вядомасць. Паследавалі запрашэнні на гастролі ў іншыя гарады, паездкі за рубеж. У гэтым не было б нічога дрэннага, калі б частыя выезды галоўнага дырыжора не перашкаджалі нармальнай працы аркестра. Знізілася патрабавальнасць, з'явілася паспешлівасць у падрыхтоўцы тых ці іншых праграм. У Дуброўскага пачалі праяўляцца некаторыя сімптомы так званага вонкавага дырыжыравання, дырыжыравання, як кажуць, «на публіку»: наўмысная прыгажосць жэста, ледзь улоўная манернасць, эфектнасць позы. Праўда, гэта не было яшчэ запушчанай хваробай і перакрывалася музычнасцю і прыродным артыстызмам дырыжора. Але, тым не менш, налёт «эстраднасці» даваў сябе адчуваць.

Справа пагаршалася яшчэ і таму, што з другім, так званым чарговым, дырыжорам філармоніі таксама не шанцавала: выехаў з Мінска Б. Афанасьеў, а запрошаны з Украіны дырыжор І. Астроўскі не асеў у Беларусі. І толькі М. Нерсясян, які прыехаў у Мінск у 1961 г., трывала ўвайшоў у калектыў.

У выніку ўсяго гэтага аркестр пачаў працаваць няроўна, нервозна. Побач з удала праведзенымі праграмамі, пачалі выпускацца канцэрты, якія выконваліся вяла, бледна, а то і проста слаба. Асабліва паказальны ў гэтых адносінах сезон 1961-62 г. Выдатна былі сыграны Адзінаццатая сімфонія Д. Шастаковіча, Трэцяя сімфонія Л. Бетховена. Падзеяй з'явілася выкананне Пятай сімфоніі С. Пракоф'ева, «Патэтычнай араторыі» Г. Свірыдава. Параўнальна нядрэнна прайшлі канцэрты беларускай музыкі да з'езда кампазітараў Беларусі. І, разам з тым, нераўнацэнна, часта без належнай падрыхтоўкі былі праведзены канцэрты бетховенскага абанемента. Нецікава прайшлі канцэрты пад кіраўніцтвам маскоўскага дырыжора Г. Юдзіна (у прыватнасці Першая сімфонія Р. Шумана). Былі зрывы і ў правядзенні лекцый-канцэртаў.

Нягледзячы на тое, што ў мінулым сезоне сімфанічны аркестр выканаў свой план па цэлым радзе фармальных паказчыкаў (колькасць канцэртаў і слухачоў, фінансавы бок),— нас не можа задаволіць якасць выканання музычных твораў. Тут дрэнна адбіліся частыя замены праграм, адсутнасць дакладнай, арганізаванай, планамернай работы.

Даволі аднабаковая рэпертуарная палітыка, што праводзілася былым галоўным дырыжорам В. Дуброўскім, захапленне музыкай М. Равеля, К. Дэбюсі, Р. Штрауса — вельмі складанай для выканання, на якую затрачвалася вялікая колькасць рэпетыцый, прывялі да таго, што іншым творам аркестр мог аддаваць значна менш увагі. Музычная грамадскасць горада неаднаразова адзначала ўсе гэтыя недахопы ў рабоце сімфанічнага аркестра. Аднак мастацкае кіраўніцтва філармоніі аказалася няздольным аператыўна іх ліквідаваць.

Цяпер у аркестры адбыліся некаторыя змены. Улетку прайшоў конкурс у выніку якога калектыў папоўніўся кваліфікаванымі музыкантамі з Ленінграда, Казані, Кішынёва, Днепрапятроўска, а таксама выпускнікамі Белдзяржкансерваторыі. Амаль нанава ўкамплектавана група альтоў, якая цяпер налічвае дзесяць музыкантаў (замест трох супраць мінулага сезона).

Набыты некаторыя новыя музычныя інструменты, адсутнасць якіх не дазваляла раней выконваць тыя ці іншыя творы. Нядаўна чэхаславацкія майстры даставілі ў Мінск арган. Ён будзе ўстаноўлены ў новай канцэртнай зале філармоніі, будаўніцтва якой заканчваецца на плошчы імя Я. Коласа. У бліжэйшы час будзе атрымана альтовая флейта, што дасць магчымасць выканаць у надыходзячым сезоне «Вясну свяшчэнную» І. Стравінскага.

У рэпертуарны план сімфанічнага аркестра на новы сезон кіраўніцтва філармоніі ўключыла лепшыя ўзоры заходнееўрапейскай і рускай музыкі — ад Баха. Гендэля, Гайдна, Моцарта (кампазітараў, чыя музыка гучала ў нас вельмі рэдка) да Малера, Бруккера, Бартака, Гершвіна, ад Чайкоўскага і Рахманінава да Скрабіна і Стравінскага. Намечана выкананне некаторых рэдкіх, амаль невядомых твораў: «Магніфікат» І. С. Баха для аркестра, хору і салістаў; сімфонія Ш. Гуно для дзевяці духавых інструментаў; сімфонія «Мастак Маціас» П. Хіндэміта і інш. Безумоўна, вялікую цікавасць выкліча канцэртнае выкананне оперы Бетховена «Фідэліо» аб'яднанымі сіламі аркестра філармоніі, хору Беларускага радыё і салістаў-гастралёраў.

Да дзесяцігоддзя з дня смерці С. Пракоф'ева будзе падрыхтавана спецыяльная праграма, куды ўвойдзе адна з сімфоній выдатнага кампазітара, яго «Скіфская сюіта» і кантата «Аляксандр Неўскі». Творы Д. Шастаковіча і Д. Кабалеўскага, Э. Мірзаяна і Б. Ляташынскага, В. Салманава, музыка кампазітараў прыбалтыйскіх рэспублік, новыя творы беларускіх аўтараў — усё гэта загучыць у канцэртах надыходзячага сезона. Будуць паўтораны і лепшыя творы нашых кампазітараў, што выконваліся ўжо летась,—сімфоніі Л. Абеліёвіча, Р. Бутвілоўскага, Д. Смольскага, Ул. Чараднічэнкі, сімфанічная паэма «Вечна жывыя» Г. Вагнера.

Намячаецца ажыццявіць тры абанементныя праграмы. Першы абанемент — «П. І. Чайкоўскі і савецкая музыка». У ім будуць выкананы ўсе сімфоніі вялікага кампазітара, а таксама лепшыя інструментальныя канцэрты савецкіх аўтараў. Гэты абанемент пройдзе па панядзелках на асноўнай эстрадзе, а таксама будзе паўтарацца ў новай зале Белдзяржуніверсітэта для студэнтаў. Другі абанемент уключае ў сябе папулярную сімфанічную музыку і прызначаецца для брыгад камуністычнай працы горада. І, нарэшце, трэці абанемент — сімфанічная музыка дзецям.

Праграма цікавая. Толькі да канца сёлетняга года мінчане павінны пазнаёміцца з мастацтвам раду зарубежных гастралёраў. На жаль, назваць імёны буйных савецкіх выканаўцаў, якія пабываюць з канцэртамі ў Мінску, філармонія пакуль не можа.

Але трэба сказаць, што складзены філармоніяй рэпертуарны план сам па сабе яшчэ не можа служыць гарантыяй цікавага канцэртнага сезона. Для таго, каб ажыццявіць гэты план, патрэбна напружаная праца ўсяго калектыву і вопытнага майстра-дырыжора. А гэта ж якраз найбольш балючае месца нашай філармоніі.

Справа ў тым, што галоўны дырыжор В. Дуброўскі ў чэрвені гэтага года пакінуў Беларусь. Гэты факт, які ні для кога не з'явіўся нечаканасцю (В. Дуброўскі даўно збіраўся паехаць), тым не менш застаў мастацкае кіраўніцтва філармоніі знянацку. Мінула лета, праведзены летнія гастролі калектыву, набліжаецца адкрыццё сімфанічнага сезона, а новага галоўнага дырыжора аркестр усё яшчэ не мае. Аднаму М. Нерсясяну вельмі цяжка, несучы свае нялёгкія абавязкі чарговага дырыжора, адначасова выконваць абавязкі і галоўнага. Ім распрацаваны і прапанаваны кіраўніцтву філармоніі план канцэртаў. Але ці можа быць цвёрдая ўпэўненасць у тым, што план гэты будзе цалкам рэалізаваны?

Кіраўніцтва філармоніі, відаць, не вельмі заклапочана такім становішчам. Ва ўсякім выпадку, не прымаюцца энергічныя захады, каб як мага хутчэй знайсці вопытнага, дасведчанага галоўнага дырыжора, здольнага вывесці аркестр з творчага застою, адкрыць перад музыкантамі новыя перспектывы. Бо нават не адбыўся аб'яўлены раней конкурс на замяшчэнне пасады чарговага дырыжора.

Нельга пасіўна чакаць, пакуль добры дырыжор — няхай сабе ён будзе галоўны ці негалоўны — сам аб'явіцца ў рэспубліцы. Трэба шукаць, смялей прадастаўляючы гастролі ў Мінску маладым музыкантам. Адзін такі эксперымент быў праароблены ў час летняга гастрольнага турнэ аркестра па гарадах Беларусі. Шкада толькі, што малады здольны дырыжор В. Катаеў, які выступаў тады з калектывам, чамусьці не застаўся ў рэспубліцы.

Кіраўніцтва філармоніі абяцае ў гэтым сезоне шырэй прыцягваць для работы з нашым аркестрам буйнейшых савецкіх і зарубежных дырыжораў, такіх, як К. Кандрашын, К. Эліязберг, Г. Раждзественскі, Я. Святланаў. Гэта, вядома, добра і прыемна як для аркестрантаў, так і для слухачоў. Аднак гастралёр, няхай ён будзе самым выдатным дырыжорам, не можа кампенсаваць адсутнасць штодзённай карпатлівай работы па выхаванню музыкантаў. Непакоіць і тая акалічнасць, што за тры тыдні да пачатку сезона яшчэ ёсць няяснасці і з рэпертуарам і з выканаўцамі-гастралёрамі.

Праўда, у будынку філармоніі ў гэтыя дні з раніцы да вечара гучыць музыка. Гэта ідуць агульныя рэпетыцыі ўсяго сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам М. Нерсясяна, якія змяняюцца заняткамі канцэртмайстарскіх груп. Музыканты развучваюць партыі славутай Сёмай (Ленінградскай) сімфоніі Д. Шастаковіча, якая прагучыць у дзень адкрыцця новага сезона — 29 верасня ў зале акруговага Дома афіцэраў.

Дарэчы сказаць, гэтая сімфонія, якая абышла ў свой час амаль усе сімфанічныя эстрады свету, у Мінску не гучала. Здзіўляючая папулярнасць гэтай музыкі Д. Шастаковіча. Ледзь паспелі адгучаць у 1942 годзе першыя канцэрты, а ўжо ўся краіна ведала асноўныя музычныя вобразы сімфоніі, асабліва першай яе часткі, якая расказвае пра смяротную барацьбу савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Цяжка назваць другі музычны твор, які мог бы параўнацца ў тыя гады з Ленінградскай сімфоніяй па сіле ўздзеяння на працоўныя масы. Але калі славуты эпізод нашэсця з Сёмай сімфоніі, дзякуючы сваёй яркасці, набыў вялікую папулярнасць, дык астатнія выдатныя музычныя вобразы сімфоніі не так шырока вядомыя. А шкада! «Лёгкая дымка смутку і летуценнасці» ў другой частцы, «зачараванне жыццём, пракланенне перад прыродаю» ў трэцяй частцы (па словах самога Д. Шастаковіча), магутны вобраз Радзімы, савецкага народа, які пераадольвае смяротныя выпрабаванні, — усё гэта вельмі хвалюе і захапляе. І галоўнае — гэта вельмі сугучна нашаму часу, эпосе пабудовы камуністычнага грамадства. «Сімфоніяй усёперамагаючай мужнасці» назваў Е. Яраслаўскі гэты твор Д. Шастаковіча.

Вось чаму трэба вітаць рашэнне адкрыць у Мінску канцэртны сезон менавіта гэтым творам. Хацелася б, каб не толькі першы канцэрт сезона, з цвёрда вызначанай праграмай, прайшоў удала, але і ўсе іншыя канцэрты былі праведзены на належным мастацкім узроўні. Гэта прынясе радасць і творчаму калектыву і аматарам сур'ёзнай музыкі, рады якіх растуць у нас з году ў год.

І яшчэ аб адным. Чаму нельга дамагчыся, каб па прыкладу гаркаўчан, па іх выдатнаму вопыту, у Мінску ў новым сезоне быў праведзены фестываль «Сучаснай музыкі»? Пра гэта варта абавязкова падумаць.

## З НОВЫМІ ВЕДАМІ

У Пінску адбыўся першы выпуск рэспубліканскіх курсаў перападрыхтоўкі дырэктараў раённых дамоў культуры. Заняткі праводзіліся па 98-гадзіннай праграме. У навучальны план уваходзіла вывучэнне новых форм культурна-асветнай работы, прапаганды рашэнняў гістарычнага XXII з'езда партыі і Праграмы КПСС.

Да чытання лекцый прыцягваліся спецыялісты з Мінска, Брэста і Пінска. Курсанты ўдзельнічалі ў правядзенні маршу калектыву камуністычнай працы Пінскай ЦЭЦ, свята на вуліцы і вуснага часопіса-дыспута на тэму «Шчасце цяжкіх дарог».

## Падзеі, факты, навіны

□ **Звыш 30 многаактавых п'ес паставіў Багушэўскі народны тэатр за тры гады свайго існавання. У арганізацыі самадзейнага драматычнага калектыву вялікая роля належыць рэжысёру тэатра Р. Сарочкінай, 50-годдзе з дня нараджэння якой нядаўна адзначыла грамадскасць раёна.**

**Б. ПЯТРОЎСКІ.**

**Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Чарнявіцкага сельскага клуба Пліскага раёна рыхтуюцца да Дэкады самадзейнага мастацтва рэспублікі. Яны ўжо выступалі з канцэртамі ў калгасах «Зара», імя Калініна і інш., развучваюць новыя песні і танцы.**

**Ф. РАМАШКА.**

**Кінамеханік Бялыніцкага раёна М. Карыткін 1 верасня г.г. выканаў свой гадавы план. За дзесяць месяцаў абавязаліся выканаць гадавыя планы кінамеханікі Н. Баліндова, І. Пажарыцкі і інш.**

**Ф. ПРУДНІКАЎ.**

## Фільмы заводскай студыі

Аматарская кінастудыя Магілёўскага завода пад'ёмна-транспартнага абсталявання імя Кірава выпусціла першы фільм «Заводскія навіны». Яго стварылі канструктар Е. Татараў, тэхнік В. Станкевіч, эканаміст Б. Кацман, слесар В. Антонаў і іншыя аматары кінамастацтва. Яны захапляюча паведамілі аб працоўных буднях калектыву, новай тэхніцы, ствараемай на прадпрыемстве, аб наватарах вытворчасці.

Цяпер калектыў студыі вядзе здымкі фільмаў «Самадзейныя артысты завода» і «Здароў'е». У апошні з іх увойдуць кадры аб спаборніцтвах заводскіх валейбалістаў, футбалістаў, лёгкаатлетаў, аб паходах турыстаў, адпачынку рабочых і служачых на Дняпры, а дзяцей — у піянерскім лагеры.

# НЕ АБЫШЛОСЯ БЕЗ СКІДАК...

**С. ЕШЫН,**
**старшы выкладчык, сакратар прыёмнай камісіі тэатральна-мастацкага інстытута.**

Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут васемнаццаты раз правёў набор студэнтаў на першы курс акцёрскага факультэта і восьмы раз — на мастацкі факультэт. І кожны год мы сутыкаемся з аднолькавымі цяжкасцямі і амаль з аднымі і тымі ж недахопамі ў ведах і падрыхтоўцы абітурыентаў.

Чым жа растлумачыць гэта?

Мы штогод атрымліваем па 15 — 20 заяў на адно вакантнае месца. Нават сёлета, у найбольш «неўрадлівым» годзе, і то на акцёрскі факультэт было дзесяць прэтэндэнтаў на адно месца, а на мастацкі — амаль удвая больш.

Здавалася б, што пры такім конкурсе набраць здольных студэнтаў — справа лёгкая. Але гэта не так. І калі набор завяршаўся ў адзін прыём, дык няма чаго граха таіць, гэта рабілася за кошт зніжэння патрабаванняў да паступаючых. І сёлета не абышлося без скідак, асабліва на мастацкім факультэце. Што да акцёрскага факультэта, дзе вынікі мінулага прымусілі прад'явіць блізкія да нормы патрабаванні (маюцца на ўвазе патрабаванні па спецыяльных дысцыплінах), дык мы не набралі і палавіны студэнтаў.

У чым жа тут справа? Чаму ўзнікаюць такія цяжкасці? Адна з прычын у тым, што ў нас, апроч Мінскага мастацкага вучылішча, няма спецыяльных навучальных устаноў сярэдняга тыпу, якія б рыхтавалі кадры ў вышэйшыя мастацкія і тэатральныя навучальныя ўстановы. (На Украіне, напрыклад, дзесяць мастацкіх вучылішчаў, па некалькі іх маюць прыбалтыйскія рэспублікі). Калі яшчэ ўлічыць, што асноўнай задачай нашага вучылішча з'яўляецца выхаванне кадраў для народнай гаспадаркі, становіцца ясна, чаму не хапае студэнтаў на мастацкі факультэт інстытута.

Яшчэ горш з наборам на акцёрскі факультэт. У іншых рэспубліках дзейнічаюць драматычныя студыі, у тым ліку пры тэатрах. Мы ж у гэтых адносінах вельмі адстаём ад суседзяў. Вось і выходзіць, што акцёрскі факультэт павінен папаўняцца толькі за лік выпускнікоў агульнаадукацыйных школ.

Разлік на агульнаадукацыйную школу, як на крыніцу папаўнення інстытута, не выпадковы. Цяпер у вучэбныя планы школ уведзены ўрокі спеваў і малявання. Эстэтычнае выхаванне школьнікаў ажыццяўляецца як усеагульнае і абавязковае з першага па восьмы клас. Яму аддаецца ўсё больш часу і ўвагі і на пазакласных занятках, і ў арганізацыі ўсяго жыцця вучняў. Але пакуль яшчэ ўступныя экзамены ў нашым інстытуце кожны раз выяўляюць непадрыхтаванасць большасці паступаючых у галіне мастацкіх дысцыплін.

Як вядома, паступаючыя, апроч агульных дысцыплін, здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці.

Экзамены маюць на мэце вызначыць здольнасці абітурыентаў, іх прыгоднасць для дадзенай навучальнай установы. Зразумела, ступень здольнасцей як агульных (эмацыянальная чуласць да цудоўнага ў жыцці і мастацтве), так і спецыяльных (мастацкіх, літаратурных, музычных) не ва ўсіх аднолькавая; яна залежыць ад прыродных дадзеных, натуральнай ці развітай з маленства схільнасці да таго ці іншага мастацтва. І вось тут вялікая роля належыць школе. Яна павінна садзейнічаць элементарнаму развіццю мастацкага кругагляду дзяцей.

Вывучэнне літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва на ўроках і на пазакласных занятках павінна не толькі выхоўваць у вучняў любоў да гэтых відаў мастацтва, але і даваць моладзі мінімум ведаў і навыкаў. Але не ўсюды, напрыклад, пазакласная і пазашкольная мастацкая работа вучняў наладжана цікава і змястоўна. Вось чаму з болем у сэрцы даводзіцца глядзець на сумныя твары многіх юнакоў і дзяўчат, якія на просьбу членаў экзаменацыйнай камісіі інстытута што-небудзь прачытаць і праспяваць (не выходзячы з патрабаванняў праграмы школы) з цяжкасцю ўспамінаюць урывак з прозы, а вершы і байкі часцей прыводзяць з праграмы пачатковай школы. Гэта гаворыць аб тым, што вывучэнню вершаў напамяць у старэйшых класах не надаюць значэння, а таму запас твораў, завучаных напамяць, у большасці абітурыентаў вельмі невялікі, а па дасканаласці прымітыўны.

Яшчэ горш з песенным рэпертуарам. Многія з юнакоў і дзяўчат на прыёмных экзаменах інстытута зусім не маглі нічога напамяць праспяваць. А некаторыя так спявалі, што хоць вушы затыкай.

Справа тут, відаць, у тым, што выкладчыкі літаратуры, спеваў і гісторыі «за дрэвамі не бачаць лесу». Яны не вучылі кожнага вучня паасобку, а вучылі цэлы «клас».

Школьнікаў не вучаць карыстацца музычнымі інструментамі. На экзаменах рэдка хто мог іграць на фартэпіяна.

Могуць сказаць, што не кожная сям'я можа набыць музычны інструмент. Але ў гэтым няма неабходнасці, бо ў нас вялікая колькасць клубаў, дамоў культуры, якія маюць шырокі выбар інструментаў. Ёсць у школах музычныя інструменты і цэлыя аркестры.

Невысокая пісьменнасць абітурыентаў. Вынікі ўступных экзаменаў і тут таксама мала суцяшальныя. З 59 прынятых на першы курс толькі адзін напісаў сачыненне на выдатна, а большасць — толькі на здавальняюча.

Спыняемся мы на гэтым пытанні таму, што нізкая пісьменнасць адзначана не толькі ў вучняў школ аддаленых ад цэнтра, але і сталічных. Не вызначаюцца высокай пісьменнасцю выхаванцы мінскіх школ №№ 6, 8, 21, 26, 29, 41, з сярэдняй школы Ліды, Мсціслаўскага і Стаўбцоўскага раёнаў.

Праўда, да нас прыходзяць асобы, якія і ў школах мелі пераважна здавальняючыя ацэнкі (двое здавалі, якія мелі атэстаты выдатныя), але гэта не здымае трывогі за ўзровень ведаў нашых вучняў, у тым ліку і ў галіне мастацтвазнаўчых дысцыплін.

Вялікае значэнне ў галіне эстэтычнага выхавання маюць мастацкія вучылішчы. Агульнаадукацыйныя школы, пры ўмове нават значнага паляпшэння іх мастацка-творчай дзейнасці, не могуць да канца вырашыць пытання аб падрыхтоўцы студэнтаў на мастацкі факультэт. Для гэтага патрэбна падрыхтоўчая ступень, якая б давала асновы ведаў і навыкаў у галіне жывапісу, графікі і скульптуры. Вось гэтыя асновы і дае спецыяльная мастацкая школа. Але ў нас у рэспубліцы толькі адно вучылішча, і таму яно ніяк не можа задаволіць падрыхтаваным кантынгентам мастацкую вну.

У рэспубліцы варта арганізаваць дадаткова, прынамсі, дзве-тры школы, а ў далейшым — у кожнай вобласці павінна быць мастацкая школа. Дарэчы, выкладчыкі для новых школ ёсць у Віцебску і Гомелі. У Віцебску да таго ж ёсць мастацкі факультэт пры педінстытуце.

Да гэтага часу Мінскае мастацкае вучылішча нездавальняюча рыхтавала кадры ў інстытут. Так, сёлета да нас было пададзена звыш 60 заяў ад тых, хто скончыў Мінскае вучылішча ў 1961—62 навучальным годзе і раней, а паспяхова здалі прыёмныя экзамены толькі сем чалавек, прычым з цвёрдымі станоўчымі ацэнкамі толькі двое. Некаторыя вучні ў дыпломе маюць добрую і выдатную ацэнкі па спецыяльнасці, а ў нас яны ледзь атрымалі здавальняючую.

Уступныя экзамены выявілі найбольш тыповыя недахопы ў падрыхтоўцы абітурыентаў. У малюнку з натуры часцей за ўсё прыкметна дрэнная апрацоўка дэталей. А гэта вядзе да парушэння прапорцыі (палец таўсцейшы за нагу і г. д.). У жывапісу — сказанае пра малюнак дапаўняецца адсутнасцю адчування колеру. У кампазіцыі найбольш тыповая хвароба — няўмелае размеркаванне фігур і прадметаў у прасторы.

Чаму гэтыя недахопы так распаўсюджаны? Некаторыя тлумачаць іх профілем вучылішчаў. Яны, маўляў, рыхтуюць настаўнікаў малявання. З гэтым пагадзіцца нельга. Профіль вучылішчаў патрабуе, каб той, хто іх скончыў, авалодаў малюнкам.

Некаторыя студэнты мастацкага факультэта Віцебскага педінстытута сур'ёзна заклапочаны і тым, што іх вучэбны план факультэта замінае атрымаць сур'ёзную мастацкую падрыхтоўку. А таму ў гэтых студэнтаў ёсць тэндэнцыя перайсці з педінстытута ў спецыяльную навучальную ўстанову.

Скончыўшыя Мінскае мастацкае вучылішча, пры паступленні да нас паказваюць нізкі ўзровень ведаў па агульнаадукацыйных прадметах.

Вядома, для паляпшэння працы школ па мастацкаму навучанню многае мог бы зрабіць і сам інстытут. Але для гэтага патрэбна цесная сувязь інстытута са школамі. Прычым, сувязь не сімвалічная, дэкларацыйная, а дзейсная, практычная. Інстытут мае высокакваліфікаваныя кадры і яны маглі б аказаць вялікую дапамогу выкладчыкам мастацтвазнаўчых дысцыплін. Але інстытут у гэтых адносінах зрабіў пакуль першыя крокі: прымацаваў да некаторых школ Мінска студэнтаў старшых курсаў акцёрскага і рэжысёрскага факультэтаў для пазакласнай мастацкай работы.

Недаравальна, што амаль адсутнічае сувязь інстытута з Мінскім мастацкім вучылішчам, якое павінна было б стаць свайго роду цэхам для мастацкага факультэта інстытута.

Хочацца яшчэ ўзняць пытанне аб арганізацыі спецыяльнай школы для здольных дзяцей і падлеткаў. Апрача таго мы лічым мэтазгодным ужо сёлета стварыць у Мінску пры адзінаццацігодках спецыяльныя класы (магчыма, адзін ці два) для заняткаў прыкладным мастацтвам. Гэта толькі пойдзе на карысць эстэтычнаму выхаванню нашых школьнікаў.

**Футбол, галубы, турысцкія паходы —дыці мала забаў у гродзенскіх школьнікаў! Але аб усім забываюць яны, прыходзячы сюды, у сваю студыю выяўленчага мастацтва пры Гродзенскім палацы культуры тэкстыльшчыкаў. Пад кіраўніцтвам Віктара Даненкава вучацца яны тут ляпіць, маляваць, пазнаюць прыгажосць фарбаў. І для многіх гэта не толькі цікавая гульня. Здольнасці і таленты развіваюцца з маленства. І хто ведае, магчыма, той жа Саша Анціпін, што з захапленнем працуе зараз над скульптурай калгасніцы, і яго сябры выберуць імена гэты шлях у жыцці—шлях творчасці.**

**Фота С. ЧЫРЭШКІНА.**

**Тэатр імя Янкі Купалы паказаў сваю новую работу — адну з лепшых камедый А. Астроўскага «На ўсякага мудраца хапае прастаты». Пераклад народнага пісьменніка БССР К. Крапівы. У спектаклі заняты артысты: Г. Глебаў, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, В. Пола, Р. Кашэльнікава, Т. Аляксеева, З. Браварская, Б. Уладамірскі, М. Федароўскі і іншыя. Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Б. Эрын. Мастацкае афармленне Б. Волкава.**

**Сцэна са спектакля: у ролі Мамаева — артыст Г. Глебаў (злева), Круціцкага — артыст Л. Рахленка.**

**Фота Ул. КРУКА.**

# МЕТОДЫКА, ПРАГРАМА І...

**Уладзімір БОГАН**

Апошнія два-тры гады ва ўсесаюзным друку з'явілася даволі шмат выступленняў аб выкладанні літаратуры ў школе і вышэйшых навучальных установах. Нельга сказаць такога пра друк Беларусі. Вось чаму трэба вітаць размову, якая распачата на старонках «Літаратуры і мастацтва» артыкулам Рыгора Рэлеса (гл. «Літаратуру і мастацтва» № 67).

У век атамнай энергіі, на фоне небывалага росквіту дакладных навук, шпаркага развіцця тэхнікі і касмічных палётаў захапленне літаратурай быццам бы адыходзіць на другі план. Аднак няправільна было б думаць, што дакладныя навукі поўнасцю запаланілі ўвагу нашых вучняў. Хіба не спяшаюцца яны паглядзець новую кінакарціну, тэатральную пастаноўку, прачытаць цікавую кнігу? Патрэба ў мастацкім слове, вобразе — неад'емная ў чалавека. Кожнаму з нас не так ужо і рэдка даводзіцца чуць, як нашы школьнікі з захапленнем пераказваюць адзін аднаму прачытаную кнігу, абмяркоўваюць, даказваюць, спрачаюцца. А як на ўроках літаратуры? Там іншае, там звычайна няма месца спрэчкам. Трэба запомніць, што сказаў настаўнік, паўтараць яго словы і старонкі падручніка. Многія настаўнікі, выкладаючы літаратуру, ідуць па лініі найменшага супраціўлення. А лінія гэта заключаецца ў тым, што цікавы эмацыянальны аналіз мастацкага твора падмяняецца голымі рацыяналістычнымі развагамі аб ім пры абсалютнай або фактычнай пасіўнасці вучняў. А ці можа доўгі час чалавек заставацца пасіўным, тым больш вучань? Успомнім сваё адчуванне на сходах, калі даводзіцца гадзінамі слухаць стандартныя даклады... Адсюль. і толькі адсюль пачынаюцца ў вучняў абыякавыя адносіны да літаратуры, а часамі нават і пагарджэнне ёю. Значыць, справа не ў тым, што дакладныя навукі быццам выцясняюць літаратуру, а ва ўзроўні і метадах яе выкладання.

Ніхто не стане спрачацца, што выкладаць літаратуру больш складана, чым іншыя прадметы. Мастацкую тканіну твора, мастацкі вобраз нельга падвесці пад нейкія раз дадзеныя гатовыя формулы і вывады. Тут непазбежныя не толькі адступленні ад падручніка, але і адказы на самыя нечаканыя пытанні вучняў, свая трактоўка літаратурнага факта. Настаўнік фізікі, напрыклад, выкладаючы свой прадмет, уздзейнічае, перш за ўсё, на розум, уяўленне вучняў, а літаратар — на эмоцыі. Уздзейнічаць жа на пачуцці чалавека — нялёгкая справа і не кожнаму яна пад сілу. Тут мала грунтоўнага ведання свайго прадмета, добрай прафесіянальнай падрыхтоўкі.

Калі мы кажам, што прафесія настаўніка — гэта прызванне, то павінны мець на ўвазе, у першую чаргу, выкладчыка літаратуры. Няма патрэбы лішні раз спыняцца на тым, што адбор абітурыентаў на філалагічны факультэт, як справядліва пісалі Р. Рэлес і Д. Фактаровіч, павінен быць самы ўважлівы, строгі і найбольш прафесіянальны. Але гэта толькі пачатак справы. Далей ідзе самае складанае — непасрэдная падрыхтоўка будучага настаўніка-літаратара. Калі б вялася яна на належным узроўні, самі сабой адпалі б многія пытанні выкладання літаратуры ў школе, якія зараз патрабуюць неадкладнага вырашэння. Вось чаму, думаецца, захады патрэбна пачынаць з філалагічных факультэтаў вну.

Нельга не пагадзіцца з Д. Фактаровічам у тым, што на філалагічным факультэце чалавек часам дзесяцігоддзямі выкладае літаратуру з чужога голасу або па даўніх запісах, між тым, як іменна літаратура патрабуе ад выкладчыка абавязковага спалучэння эрудыцыі з выразнасцю сваіх адносін і аргументаванасцю ацэнак. Павярхоўнае, дагматычнае выкладанне літаратуры сапраўды яшчэ вельмі моцна трымаецца ў вну. Аб гэтым многа гавораць, гавораць студэнты і выкладчыкі. А на кафедрах літаратуры ўсё застаецца амаль што без змен...

І сённяшні студэнт прызвычайваецца да думкі, а то і лічыць заканамерным, што гаварыць аб мастацкім творы можна толькі словамі нейкай друкаванай працы. Да таго ж, часам, ён можа загадзя прачытаць з падручніка або, скажам, з энцыклапедыі тую ж лекцыю выкладчыка раней, чым яна прагучыць потым з кафедры. Сам такі факт быццам дае дазвол гэтаму студэнту таксама потым гаварыць і **думаць «з чужога голасу»**.

Не баючыся паўтарэння, хочацца падкрэсліць, што добрую падрыхтоўку настаўнік-філолаг атрымае тады, калі выкладчыкі літаратуры з кафедр будуць даводзіць да выхаванцаў **сваю** думку, **сваё** жывое слова.

Выкладчык сваімі лекцыямі павінен не толькі паведамляць тыя ці іншыя факты, навуковыя палажэнні, але і **навучыць** студэнтаў самім знаходзіць гэтыя факты і вывады, крытычна ацэньваць дасягненні навукі, рабіць супастаўленні. Выкладчык павінен «ставіць» свае літаратурныя эксперыменты «ўголас» перад аўдыторыяй і тым самым перадаваць ёй **свае** прыёмы аналізу мастацкага твора.

Для нас важна вучыць студэнтаў разбірацца не толькі ў эстэтычных вартасцях мастацкага твора, але асэнсоўваць і пе-

**Максіму Танку — 50 год**

# ДАРОГАЙ ВЯЛІКАЙ ПАЭЗІІ

«Праз вогненны небасхіл». Так называецца адна з кніг Максіма Танка. Так, паэзія Максіма Танка прайшла па этапных дарогах былой Заходняй Беларусі, прабілася праз вогненны небасхіл вайны, стала на мірную працоўную вахту і, закасаўшы рукавы, працуе ў імя міру і росквіту жыцця.

Калі перачытваеш кніжкі паэта, быццам рынаеш у цэлы невядомы і вядомы табе свет цудоўнага, хвалюючага, таго, што бярэ за сэрца, чытаеш кнігу жыцця ва ўсёй яе шматграннасці. Ад першых вершаў, надрукаваных у пачатку трыццатых гадоў, да цыкла, які складаецца з 50 вершаў (гэтак паэт адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе), апублікаваных у апошнім нумары «Полымя», паэт ідзе па гарачых сцежках жыцця, пакідаючы на іх свой выразны след.

У першых вершах Максіма Танка, якія як бы друкаваліся на этапных дарогах, — гнеў і боль за тое, што яго землякі, людзі крывавага мазаля, не могуць жыць па-чалавечы, што яны вымушаны гібець ва ўмовах панскай Польшчы, якая душыла ўсё жывое, сацыяльна дужае, у тым ліку і ў паэзіі Максіма Танка.

Былі боль, гнеў. Але ніколі, ні ў адным радку паэта не было адчаю, безвыходнасці. Наадварот, радкі яго вершаў рваліся, як дынаміт, яны будзілі, клікалі пад'ярэмны люд на барацьбу за ўз'яднанне са сваёй маці — Савецкай Радзімай. У кожным, здавалася б, нейтральным прыродаапісальным вершы таіўся зарад гневу супраць тых, хто прыгнятаў беларускі народ, — супраць пілсудчыкаў і іх камарыллі. Прыгадваецца невялікі верш «Раманс». Назва бясхрыўдная. Але якой выбуховай сілы гэта верш. Я не магу не прывесці яго цалкам.

**Мы любім вас усіх,**
**І вашы ўсе заслугі**
**Не сцерліся з худых**
**Плячэй з слядамі пугі.**
**З пашанай хілім карк**
**Да самых ботаў, нізка,**
**Нічога, што рука**
**Чагось шукае блізка.**
**Калі ж пад рызманом**
**Вам нешта ўдасца выкрыць —**
**Сякеру або лом,**
**Ці ў слове нашым іскры, —**
**Не трэба дзіка выць**
**І псуць жалезам зубы:**
**Не можа нешта быць,**
**Калі мы вас так любім!**
**Святыя вы для нас,**
**Вялікія над ўсімі, —**
**А некалі ж мы вас**
**Яшчэ вышэй падымем!**

Гэта «прызнанне ў любві» да пілсудчыкаў, ад якога, відаць, у тых на лоб вочы палезлі. А вазьміце, здавалася б, эпічна спакойны верш «Песня кулікоў», у якім расказваецца пра тое, як паэт забрыў у сялянскую хату на начлег. Дзядуля-селянін скардзіцца прышэльцу на лёс, на голад і холад. Гэта не проста скарга, гэта крык сялянскай душы, гэта ўсплёск гневу, і адчуваецца па ўсім, што гэты стары і той малы, якога яшчэ калыша маці ў калысцы пад шум і гул мяцеліцы, — гэта барацьбіты, гэта тыя, хто возьме ў рукі сякеру ці вілы, каб пазбавіцца назаўсёды ад панскай апекі.

А паэма «Нарач»! Хіба гэта не споведзь самога паэта і яго герояў, яго народа. Для паэта вышэй за ўсё барацьба і яшчэ раз барацьба за сацыяльную справядлівасць, за новае вольнае жыццё.

Кожны радок Максіма Танка, напісаны да вераснёўскіх дзён уз'яднання Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве, стаяў на перадавых пазіцыях барацьбы ў якасці вострай і грознай зброі. Камуніст, паэт адчуваў патрэбы народнай душы і выказваў іх з усім запалам паэтычнай сваёй натуры. А ці не ў гэтым найвышэйшае прызванне паэта!

Паэту пяцьдзесят год. З іх больш трыццаці ён прайшоў як салдат паэтычнага строю, як баец, для якога вышэй за ўсё інтарэсы, лёс роднага народа. Каб гэта выразней адчуць, трэба звярнуцца да творчасці паэта незабыўных гераічных год Вялікай Айчыннай вайны. Нястомна паэт працаваў над тым, каб мабілізаваць народны гнеў, народную нянавісць да нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія каваным ботам таптаці родную зямлю. Гэта і цудоўная паэма «Янук Сяліба», гэта і вершы, якія склалі кнігу «Праз вогненны небасхіл». Сапраўды, кожны радок гэтых вершаў мае незвычайную выбуховую сілу. І калі паэт гаварыў:

**Да зброі, Беларусь, да зброі!**
**Салют Масквы табе грыміць.**
**Выходзь сустрэць братоў-герояў**
**І лютых ворагаў дабіць, —**

яго голас слухаў народ. Народ ведаў, што яго сын, яго паэт і баец кліча на святую справу барацьбы за свабоду, за вяртанне шчаслівага жыцця.

Паэзія Максіма Танка сапраўды народная, хоць яна і не падрабляецца пад народную рытміку. Яна з'яўляецца як бы сплавам таго інтэлектуальнага багацця, якое накапіў народ на працягу доўгіх стагоддзяў гісторыі, і таго, што выспела ў душы паэта. Мастацкая тканіна танкаўскіх вершаў густая. Мова яго дакладная і маляўнічая, афарыстычная. Паэт немнагаслоўны ў сваіх вершах. Яны, як правіла, кароткія па радках, але ёмістыя па думцы, вобразы іх западаюць у душу чытача.

Паэту пяцьдзесят год, але ён малады. Наш чытач ужо звык: кожны год прымаць, як найлепшы падарунак, цыкл, а то і два новых вершаў паэта. Паэт увесь у руху, на творчым уздыме, ён многа падарожнічаў, многа бачыў. Яго паэтычнае адкрыццё братняга Кітая, далёкай Амерыкі, дзе ён пабываў і цяпер знаходзіцца, — гэта шэдэўры, гэта тое, што ўзнімае нашу родную беларускую паэзію на яшчэ вышэйшую ступень развіцця. Паэт да свайго пяцідзесяцігоддзя надрукаваў пяцьдзесят вершаў. Гэта — роздум пра наш час, пра месца чалавека ў яго жыцці. Яны па-філасофску мудрыя, па-сапраўднаму паэтычныя.

Паэт у вялікай дарозе, і колькі б ён ні прайшоў, ён не прысядзе «адпачыць ля ціхай рэчкі». Яго вабяць іншыя, яшчэ больш цяжкія дарогі. Сапраўдная творчасць — гэта заўсёды адкрыццё. Няма ў паэзіі, як і наогул у творчасці, пратаптаных дарог, і мы, чытачы, хто шануе талент паэта, сябры і таварышы па пяру, верым, ведаем, што Максім Танк пракладзе яшчэ не адну дарогу ў нашай паэзіі. Пажадаем жа яму творчых удач на вялікай дарозе паэтычнай творчасці беларускага народа.

**Раман САБАЛЕНКА.**



## ПРЫВІТАННЕ ЮБІЛЯРУ

**У сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння паэта Максіма Танка прэзідыум праўлення СП БССР звярнуўся да яго з наступным прывітаннем:**

**«ДАРАГІ ЯУГЕНІЙ ІВАНАВІЧ, ЛЮБЫ НАШ МАКСІМ ТАНК!**

**Мы, твае сябры, таварышы, працаўнікі літаратурнай нівы, горача, ад усяе душы, віншуем цябе, нашага слаўнага паэта, палымянага змагара-камуніста, цудоўнага, чулага чалавека, з днём твайго 50-годдзя.**

**Тваё жыццё, твая агністая паэзія з'яўляюцца ўзорам служэння народу. Ва ўмовах белапанскай Польшчы, у юнацкія камсамольскія гады ты быў актыўным удзельнікам гераічнага падполля, рэвалюцыйнай справай, дзейсным паэтычным словам змагаўся супраць рэжыму пілсудчыкаў, з гонарам выконваў заданні партыі. Ні арышты, ні турмы не здолелі пагасіць у табе полымя паэзіі, пахіснуць веру ў перамогу народа, веру ў яго вызваленне. З гэтай верай камуніста-змагара ты ўдзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, аддаючы ўсе свае сілы і мужны талент паэта справе разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**У тваіх шматлікіх кнігах вершаў і паэмах увасобіўся голас векапомнага гістарычнага часу. І заклік, і мудры роздум, і натхненне знаходзяць у тваіх кнігах савецкія людзі — будаўнікі камунізма і чытачы за межамі нашай краіны. Яны чуйна прыслухоўваюцца да цябе — слаўнага савецкага паэта, нястомнага грамадскага дзеяча.**

**Сваё пяцідзесяцігоддзе, дарагі Яўгеній Іванавіч, ты сустракаеш за межамі нашай Радзімы. Табе выпаў высокі гонар адстайваць з трыбуны ААН вялікую справу міру.**

**Жадаем табе, дарагі наш Максім, добрага здароўя, шчасця ў жыцці, новых творчых радасцей, новых кніг на славу савецкай шматнацыянальнай літаратуры, на карысць нашай вялікай Радзімы».**

# ШЧОДРАСЦЬ ТАЛЕНТУ

**ЗАІР АЗГУР**

Ёсць у гэтым чалавеку нешта ад селяніна: нетаропкасць і разам з тым асэнсаваная ўпартасць. Глядзіць ён прама і адкрыта, твар уважлівы і разумны. У куточках вуснаў хаваецца ўсмешка добразычлівага чалавека. Вочы шэраватага колеру, з блакіцінкай. Яны часта асвятляюцца ўсмешкай. Увесь ён добра скроены. У ягоных вершах вы абавязкова прачытаеце пра стромкія сосны паблізу нарачанскіх вод. У ім усё вымушае мяне думаць, што ён падобны да ўсіх беларусаў ці, наадварот, усе беларусы падобны да яго. Я дужа люблю яго паэзію. Дайце каму-небудзь прачытаць ягоны верш, напісаны ім ці ў пару юнацтва, ці нядаўна, і чалавек адразу скажа, што аўтар не проста валодае рыфмай, а што ён сапраўдны паэт нашага нялёгкага, трывожнага і радаснага XX стагоддзя.

Добрым талентам надарыла прырода гэтага чалавека і, перш за ўсё, навучыла яго быць чулым. У яго вершах жывуць і хвалююцца, змагаюцца і кахаюць беларускія сяляне Вілейшчыны, нарачанскія рыбакі, налібоцкія партызаны, мінскія аўтабудаўнікі і муляры.

Умее ён слухаць і адлюстроўваць шум дуброў і ўсплёск хваляў на рэчцы. Ён любіць жыццё.

Я ляпіў партрэт Яўгена Іванавіча і папрасіў яго чытаць вершы. Трошкі глухаваты, але з нейкім металічным звонам, голас паэта гучаў у маёй майстэрні, і мне адкрываліся новыя багацці нават у даўно вядомых паэтычных радках

**Каласы мае град не раз**
**выбіў**
**І на помач прыйсці я**
**не мог.**
**Але сёння аб горныя**
**скібы**
**Адвастру новых песняў**
**нарог.**
**Перакіну праз плечы**
**вясёлку**
**І вазьму ў рукі**
**сонца-сяўню**
**І зарой ураджаяў**
**звонніх**
**Напаю вочы сінія дню...**

Я не магу стрымаць шчаслівай усмешкі, калі паэт выступае вось гэтакім сонцаносным.

Максім Танк напісаў паэму-легенду пра мастака і дойліда з простага народа «Люцыян Таполя». Гэты твор мне асабліва блізкі і зразумелы. Прага творчасці перададзена ў ёй незвычайна. Герой выразаў з дрэва па заказу царкоўнікаў фігуры біблейскага паходжання — апосталаў і прарокаў, якія ў яго былі больш падобныя да смаргонскіх сялян і вілейскіх лесарубаў. За «вольнадумнасць» царкоўнікі асуджаюць яго на дзесяць год пазбаўлення творчасці: яму забараняюць займацца мастацтвам. Паслухайце, з якім болем гаворыць паэт пра гэтыя дзесяць год:

**Дзесяць год.**
**За гэты тэрмін дрэва**
**Дзесяць раз убор зялёны**
**зменіць,**
**Дзесяць пакаленняў салаўіных**
**Выкалыша на сваіх галінах.**
**Дзесяць залатых кругоў**
**адложыць,**
**Як прасценкаў, каля сэрцавіны.**
**Што тады казаць пра**
**чалавека!..**

У сваіх вершах і апавяданнях пра тое, што бачыў і перажыў, Яўген Іванавіч невычэрпны. Ён можа расказваць пра скарбніцы Луўра, пра старажытнае мастацтва Кітая, пра ганчароў і пра тых, хто мые вокны ў Нью-Йорку, пра парыжскіх і нашых дзяўчат з Прынямоння. Памятаю, вярнуўся ён з падарожжа па Еўропе. Перш-наперш расказваў сябрам пра тое, што яго там здзівіла і радавала, засмучала і прыгнятала. Раптам спахапіўся і гэтак адгукнуўся на Венеру Мілоскую, арыгінал якой ён там убачыў:

**Бачу — ідзе яна лёгкай хадою.**
**Рук няма. Пэўна, маланка**
**скрышыла,**
**Каб перад небам і перад зямлёю**
**Грудзі свае імі не засланіла.**

Колькі легенд і навуковых гіпотэз ходзяць вакол гэтай «бязрукай багіні з Луўра». Беларускі паэт сказаў сваё слова: лірычна-ўзнёслае і ў той жа час зямное. Вядомы ўсяму свету антычны мармур пасля такіх вершаў сапраўды ажывае ў нашым уяўленні, і Венера, багіня пладароддзя і кахання ў грэкаў, становіцца жывою, ідэальна прыгожай і рэальнай жанчынай далёкіх стагоддзяў.

Аднаго разу мы ў майстэрні разгаварыліся, здавалася б, на прафесіянальную тэму: пра завершанасць думкі ў карціне, у вершы, у музычным творы, у скульптуры. Гаворка ішла пра той момант, калі мастак павінен паставіць кропку. Мне гэтае пытанне руціла даўно, і я наважыў падзяліцца сваімі думкамі.

— Ведаеш, дружа, за доўгія гады работы над скульптурамі я зразумеў, як мне здаецца, адно: заўсёды трэба выяўляць у чалавеку здаровае, жывое, тое, што не праходзіць. Разумееш мяне? А не гнацца за няўлоўнай шматграннасцю. Калі скульптар вылучыць у чалавеку ўсё тое, што схавана пад знешняй абалонкай і захоча адлюстраваць усё да дробязей у партрэце, то, бадай што, выйдзе пярэсты, неабагулены твор, падобны на брук, вымашчаны каменнем рознага памеру. Захапіўшыся падрабязнасцямі, можна не ўгледзець галоўнага.

Яўген Іванавіч усміхнуўся.

— Мне здаецца, у вашай справе першае — гэта знешняе падабенства, а другое, самае галоўнае — унутранае. Я люблю закончанасць думкі, няхай часам нават будзе ўяўная абарванасць яе. Важна, каб былі выказаны чалавечыя пачуцці, каб і твая, аўтарская, думка была выразная. Я люблю калыханкі, але не творы, якія закалыхваюць. Скульптура, на мой погляд, ніколі не павінна закалыхваць.

Я гаварыў далей:

— Здараецца, што зробіш накід, быццам пачатак ёсць, а далей працаваць не хочацца. Відаць, гэта таму, што не ясная да канца задума.

Паэт падумаў і сказаў:

— Вось у эпіграмах заўсёды бываюць два ці чатыры радкі, яны лаканічныя, але там ёсць пачатак і ёсць канец. Часам чалавеку трэба даць твор такой закончанасці, дзе б ён мог паміж першым і апошнім словамі дадаць сваё і развіць думку іменна ў тым кірунку, у якім хоча аўтар. Сіла лаканічнай думкі заключаецца якраз у тым, што чалавеку даецца напрамак. Калі ты маеш на ўвазе такую лаканічнасць, дык можна лічыць, што паэт ці скульптар дасягнуў свайго.

— Я заўсёды ў захапленні ад эпіграм, — сказаў я. — У іх лаканізм даведзены да выразнасці. Але калі я думаю пра іншыя жанры, у мяне ўзнікаюць непаразуменні.

— Для пераканальнасці я бяру жанр эпіграмы, — сказаў Яўген Іванавіч. — Але лаканізм уласцівы кожнаму віду чалавечай творчасці. Самае складанае — гэта напісаць проста.

Некалі я вычытаў у Стэндаля такія словы: «Рэдка ў Рафаэля сустрэнеш закончанае дзеянне, г. зн. такое, што яго персанажу быццам не трэба больш рабіць ніякага руху. Так ён мог узрушаць уяўнага гледача. Ён валодаў гэтай уяўнай неахайнасцю, якая прымушае гледача бачыць тое, чаго яму нельга паказваць...»

Стэндаль адмаўляў у скульптуры «прыкрыя падрабязнасці, якія могуць, бадай, забраць некаторую часціну ўвагі» ў гледача і прыводзіў прыклад: «Калі глядач заўважыць складкі на руцэ скульптурнага вобраза і ўспомніць пра свае ўласныя рукі, якія гэткія ж маршчыністыя, — усё прапала, уражанне разбурыцца». Значыць, скульптар, як і кожны мастак, павінен паказваць не ўсё, што яму вядома пра чалавека, з якога ён робіць партрэт, а толькі самую сутнасць знешняга і ўнутранага свету. Такое патрабаванне паэзіі, скульптуры і наогул мастацтва.

Я зразумеў, чаму сам Максім Танк, знаўца фальклору, надзвычай афарыстычны ў сваіх вершах. Нярэдка абуджаная ім у чытача думка як бы запаўняе патрэбным сэнсам тое, што змяшчаецца ў падтэксце радкоў. Ён пісаў пра камуністаў:

**Партыя —**
**Выпрабаваны ў баях карабель.**
**Я — адна толькі нітка**
**У тых ветразях алых суровых,**
**Што гісторыі подых нясуць на**
**сабе...**

Гэтыя радкі нікога не пакінуць абыякавым. Так, сапраўды, — думаю я, — сапраўдны камуніст і павінен адчуваць сябе ніткай ветразя, сціплым, без гонару, і нельга быць яму слабым, няўпэўненым, крывадушным. Усе ніткі павінны быць моцнымі. Тады ветразь прыме на сябе любыя ўдары, а карабель даплыве да мэты... Так дадумваў я следам за паэтам.

Аляксандр Твардоўскі ў паэме «За даллю — даль», як мне здаецца, так і не дайшоў да канца, пакінуўшы нам, чытачам, права ў думках убачыць мэту вялікага шляху праз неабсяжныя далячыні. Закончанасць дзеяння ў творы не канон, не феціш. Трэба заўсёды імкнуцца да мастацкай завершанасці.

Максім Танк напісаў здзіўляючы сваёй закончанасцю паэтычны твор «Аве Марыя», дзе словам дужа цесна, затое прасторна бачанню чытача. Я так люблю гэты верш, што не магу не прывесці яго:

**Нат пад жалобнаю**
**вопраткай чорнай**
**Ты адгадаеш: стан непакорны,**
**Ножкі, якімі на карнавалах**
**І захапляла і чаравала,**
**Смуглыя рукі, грудзі тугія,**
**Аве Марыя...**
**Цябе атрутаю апаілі**
**Ружанцам рукі табе скруцілі.**
**Смялей парві ты яго, не бойся!**
**У полі недзе шуміць калоссе...**
**О, як бы жалі рукі**
**такія, —**
**Аве Марыя!**
**А потым хутка**
**прыйшло б каханне,**
**Страчала б з мілым**
**свой золак ранні.**
**А потым стала б ты гаспадыняй**
**І калыхала б сваю дзяціну!**
**О, як карміі б грудзі такія, —**
**Аве Марыя!**

Імкненне зразумець чалавека, стаць яго саюзнікам у барацьбе за радасць жыцця — вось што характэрна для вершаў Максіма Танка. Вершы яго лаканічныя, строгія, яны не закалыхваюць, а, наадварот, не даюць спакою, узрушаюць, хвалююць. Нават калі б ён напісаў адзін гэты верш, яго можна было б лічыць майстрам, які ведае сакрэты творчасці. Сваім думкам, якія варты ўвагі чытача, ён надае выразную і дасканалую форму.

Паэзія Танка захапляе чытача любой прафесіі, але яна асабліва зразумелая скульптару. Яна быццам аб'ёмная, у ёй ёсць нейкі дакладны, я сказаў бы, архітэктурны лад і глыбокі філасофскі сэнс.

Ну як можна без захаплення чытаць такія радкі, пранікнутыя іранічным стаўленнем да ўяўлення сучаснага абывацеля, які бачыць шчасце будучага ў тым, што чалавек перастане працаваць. Паэт, звяртаючыся да вучонага, гаворыць:

**Прашу цябе ў гэтым пасланні —**
**Пакінь з першабытным**
**прысмакам для іх**
**Хлеб,**
**Песню,**
**Віно і**
**Каханне.**

Я рады, што працаваў над партрэтам Максіма Танка і меў магчымасць многа і шчыра гутарыць з ім. Калі я чую яго адрывісты, нейкі своеасаблівы смех, я сам міжволі ўсміхаюся. Мне прыемна, радасна: поруч са мною праходзіць жыццё чулага і шчодрага мастака слова.

# АБКРАДАННЕ ПАЧУЦЦЯЎ

раасэнсоўваць крытычныя працы, сапраўды пранікаць у майстэрства крытыкі, аналізу.

Пры ўсім гэтым было б бяссэнсіцай патрабаваць ад выкладчыка вну, каб ён даваў студэнтам толькі ўласны, арыгінальны аналіз і ацэнку літаратурных фактаў і з'яў. У гэтым крыецца пэўная небяспека. Дарэчы тут прывесці словы Салтыкова-Шчадрына: «Здольнасць гаварыць з чужое думкі ёсць здольнасць надзвычай карысная... Часам запазычанне яе паяўляецца ў выглядзе пераемнасці думкі; тут чужая думка служыць толькі зыходным пунктам, з якога той, хто засвоіў яе, ідзе далей, гэта значыць, не толькі развівае чужую думку, але ператварае яе ў сваю ўласную». Па меншай меры такімі людзьмі, якія здольны развіваць чужую думку і ісці далей павінны быць выкладчыкі літаратуры вну і славеснікі школ.

Паміж патрабаваннямі выкладчыкаў вну і выкладчыкаў школ да ведаў сваіх выхаванцаў па літаратуры можна ўстанавіць пэўную аналогію. Справа тут не ў аб'ёме ведаў, а ў іх напрамку. Успамінаючы свае студэнцкія гады, магу сказаць, што, каб атрымаць вышэйшую адзнаку па літаратуры, не заўсёды трэба было разбірацца ў мастацкай сутнасці таго ці іншага твора. Пахвалу на экзаменах я атрымаў толькі за тое, што ведаў гісторыю напісання рамана Заля «Жэрміналь», сэнс яго назвы і ідэю. Больш нічога і не патрабавалася: ні аналізу тэксту, ні самастойнасці ў разважаннях, ні ўласнай аргументацыі.

Карэннага перагляду патрабуюць вучэбны план праграмы і сам метад вядзення заняткаў са студэнтамі філфака. Яны з'яўляюцца значнай перашкодай у падрыхтоўцы настаўнікаў для школы. Хіба многа пішуць студэнты сачыненняў і ці ўсё зроблена для таго, каб навучыць іх гэтай справе? Рэфераты, курсавыя і дыпломныя работы — гэта не тое, што, скажам, сачыненне на вольную тэму, па мастацкай карціне і г. д. Настаўнік павінен выхаваць у сваіх вучняў любоў да музыкі, навучыць разбірацца ў жывапісу, выхоўваць агульнакультурныя навыкі і інш. Аднак ці не замала ўдзяляецца ўсяму гэтаму ўвагі ў сценах вну?!

Са мною могуць паспрачацца і сказаць, што ў апошні час многае змянілася, што студэнт-філолаг атрымлівае зараз усебаковую падрыхтоўку ў плане свайго профілю. Я не лічу, што гэта так.

У выбары вучэбных прадметаў патрэбна памятаць пра галоўнае — падрыхтоўку добрага настаўніка. Вучэбныя ж праграмы, якія вызначаюць напрамак работы філалагічных факультэтаў, выклікаюць многа пярэчанняў. Выходзіць неяк так, што будучым настаўнікам больш сцісла выкладаюць якраз тыя курсы прадмета, усебаковае і дасканалае веданне якіх надзвычай неабходна для іх прафесіі. На творчасць заходнееўрапейскага пісьменніка эпохі феадалізму, пра якога настаўнік у класе расказваць не будзе, адводзіцца, напрыклад, больш лекцый, чым на творчасць буйнага беларускага пісьменніка, якому ў школьнай праграме аддаецца важнае месца.

Непрапарцыянальна многа вучэбнага часу плануецца на вывучэнне гісторыі прадмета і недастаткова — на яго практыку і тэорыю. Хіба патрэбна настаўніку школы гістарычная граматыка (руская або беларуская) у такім аб'ёме, як яна выкладаецца ў вну? Дарэчы, цікава правесці эксперымент і ўстанавіць, колькі працэнтаў ведаў па гістарычнай граматыцы або па старажытнай славянскай мове захавалася ў памяці настаўнікаў праз два-тры гады пасля заканчэння вну? Вядома, можна знайсці доказы супраць такога сцвярджэння. Але дазвольце спытаць, ці многа адзначана недахопаў у рабоце настаўнікаў толькі па той прычыне, што яны забылі гістарычную граматыку? А вось узяць «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» для студэнтаў філфакаў. Ён, безумоўна, занадта сціслы.

Думаецца, што тым, ад каго залежыць вызначэнне напрамку, у якім павінна ісці падрыхтоўка выкладчыкаў літаратуры, трэба памятаць, як гаварыў М. Г. Чарнышэўскі, што «без тэорыі прадмета няма і яго гісторыі». Ды хіба не ясна, што для глыбокага і поўнага ўспрыняцця мастацкага твора патрэбна грунтоўная тэарэтычная аснова. А яе пакуль што бракуе не толькі настаўнікам школ, але і выкладчыкам філалагічных кафедр вну.

Не ўдаючыся ў падрабязнасці вучэбнага плана вну, нельга не сказаць аб прадмеце, выкладанне якога на самым высокім узроўні мэтазгодна ўвесці і на іншых факультэтах, — гэта практычная стылістыка. У нас неяк так здарылася, што разам з пераасэнсаваннем паняцця «рыторыкі» як навукі аб красамоўстве, забыта сама навука. Не трэба заплюшчваць вочы на тую з'яву, што культура роднай мовы нізкая і ў работнікаў школ, і ў выкладчыкаў вну, і ў навуковых супрацоўнікаў. Аб гэтым сведчаць не толькі ўрокі, лекцыі, але і тая друкаваная прадукцыя, якая штогод усё большым патокам выходзіць з нашых друкарань.

Вялікая справа — павысіць культуру мовы нашых настаўнікаў, навучыць іх адчуваць і цаніць слова, даць ім у рукі надзейны інструмент, з якім яны падышлі б да выпраўлення, узбагачэння вуснай і пісьмовай мовы сваіх выхаванцаў.

Ад настаўніка, мабыць, больш чым ад іншага спецыяліста, праца патрабуе павышэння тэарэтычнага ўзроўню і прафесіянальнага майстэрства. І малады спецыяліст старанна папаўняе прабелы ў сваіх ведах. Па-першае, ён дасканала вывучае той прадмет, які яму патрэбна выкладаць; па-другое, шукае метадаў вядзення ўрока, ацэньваючы свае сілы, сваю ўнутраную арганізацыю, свой тэмперамент і характар. Знойдуцца і такія, што і аб першым і аб другім сур'ёзна не паклапоцяцца. Аднак не будзем гаварыць пра такіх. Паглядзім, што яшчэ перашкаджае па-сапраўднаму ўзбройваць ведамі, фарміраваць маральнае аблічча нашых школьнікаў. Спынімся толькі на характэрным, з чым настаўнік непасрэдна сутыкаецца ў сваёй рабоце, як ідзе (ужо па-за сценамі вну) удасканаленне яго майстэрства.

На першы погляд можа здацца, што для настаўніка-філолага зараз вельмі многа робіцца: па літаратуры і мове выдаецца немалая колькасць метадычных дапаможнікаў, матэрыялаў «з вопыту работы», чытаюцца даклады, працуюць у школах метадычныя аб'яднанні, у раёнах — секцыі. Аднак усё гэта не прыведзена ў належную сістэму. У пошуках новага (дарэчы, заўважым, што гэтым «новым» вельмі часта бывае даўно забытае старое) нярэдка забываюцца і ігнаруюцца выпрацаваныя жыццём і правераныя практыкай метады і прыёмы выкладання. Апошні час адна форма вядзення ўрока з незвычайнай хуткасцю і лёгкасцю змяняе другую.

Некалькі гадоў таму назад было звычайным апытанне вучняў па адным, пазней з'явіўся ўшчыльнены прыём праверкі ведаў вучняў. Майстэрствам лічылася, калі адначасова ля класнай дошкі і стала настаўніка знаходзілася па тры — пяць і болей вучняў. Зараз, звычайна, выстаўляюць ацэнкі вучням за некалькі адказаў з-за парты і г. д. і г. д. Ва ўсіх гэтых прыёмах і метадах ёсць свой дадатны бок і імі трэба карыстацца ўмела, улічваючы ўсе абставіны як знешнія, так і ўнутраныя: дысцыпліну класа, веды вучняў, асаблівасці настаўніка, характар матэрыялу і інш. Бяда ў тым, што з практыкі работы школ няцяжка заўважыць, як той або іншы прыватны прыём узводзіцца ў абсалют, а метад насаджаецца ледзь не ў адміністрацыйным парадку. Ствараюцца такія ўмовы, што настаўнік вымушан абавязкова «перабудоўвацца», нягледзячы на тое, прынясе гэта поспех справе ці не. Не сакрэт, што так званымі навейшымі прыёмамі, ён карыстаецца часта толькі дзеля прадстаўнікоў адміністрацыі, што прысутнічаюць у яго на ўроку.

Усё гэта, нарэшце, прыводзіць да таго, што многія настаўнікі расцэньваюць метадычныя дапаможнікі і парады як інструкцыі або загады. Аб якой творчасці тут можа ісці размова? Больш таго, некаторым настаўнікам удаецца апраўдаць сваё няўменне, сваю нядобрасумленнасць гэтымі распрацоўкамі і дапаможнікамі.

Нядаўна на жнівеньскіх нарадах многа чыталася дакладаў аб павышэнні эфектыўнасці ўрока і павелічэнні граматнасці вучняў. Былі выказаны і дзелавыя прапановы, і слушныя парады. Разам з тым, здаецца, залішне катэгарычна гучаў тэзіс: «Адмаўляцца ад камбінаванага ўрока». Выклікае засмучэнне, трывогу і роздум, калі настаўнік-дакладчык гаворыць: «Я прыношу ў клас карціну і прапаноўваю вучням: выпісаць назоўнікі, якія ўжываюцца ў гэтай карціне». Або: «Прыметнікі ўносяць стройнасць у мову, ад іх мова бывае выразная» і інш. І на гэта не звяртае ўвагі аўдыторыя, не заўважаюць падобнага ў школе.

Ці не пара задумацца над тым, як спалучыць павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў з самай сур'ёзнай адукацыяй іх? Як патрэбна настаўнікам жывое слова спецыяліста-мастацтвазнаўцы, літаратуразнаўцы! Інакш яшчэ доўга школьнікі будуць вымушаны шукаць дзеясловы, назоўнікі і злучнікі ў карцінах Рэпіна, Шышкіна, Левітана і падбіраць «прызнакі да назоўніка «паліто».

Для нашай метадычнай навукі яшчэ вельмі характэрны бяскрылы эмпірызм. У сваіх пошуках яна часта не абапіраецца на агульныя законы савецкай педагогікі, псіхалогіі і методыкі, часамі проста як бы забывае пра іх. А важна, каб савецкі настаўнік заўсёды арыентаваўся на тыя агульныя палажэнні, на якіх трымаецца педагагічная навука, аўтарытэт настаўніка.

Пра адукацыю настаўніка павінен дбаць больш і наш перыядычны друк. Амаль што не рэцэнзуюцца на старонках часопісаў «Полымя», «Неман», газет «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і іншых выданняў школьныя праграмы і падручнікі. Арыгінальных жа беларускіх падручнікаў наша школа атрымлівае каля двух дзесяткаў. Выдаюцца і перавыдаюцца яны са значнымі недахопамі, якія, бясспрэчна, перашкаджаюць рабоце настаўнікаў.

Чаго варта, напрыклад, такая недарэчнасць у падручніку беларускай мовы для чацвёртага класа, якая трапіла сюды разам з вершам А. Ставера «У грыбах»:

Пад нагой хрумсціць ігліца,
І шуміць смалісты бор...
Сыраежкі і лісіцы —
Ўсе нібыта на падбор.

Прызнаюся, што гэта не мая «знаходка», мы, дарослыя, не схільны чытаць дзіцячыя кніжкі. У гэтым «вінавата» дачка: ёй абавязкова трэба чытаць свой падручнік і асэнсоўваць прачытанае. Даруем ёй, калі яна пакрыўдзіла каго-небудзь з дарослых. Але ў кожным выпадку мы павінны адказаць на яе нясмелае пытанне: «Чаму гэта ў вершы напісана, што пад нагою шуміць бор? Ён жа ўверсе».

Трэба сур'ёзна яшчэ і яшчэ раз падумаць, што неабходна зрабіць для таго, каб кожны, хто закончыў філфак, пісаў і гаварыў прыгожай мовай, без памылак і не ўжываў без патрэбы даданыя сказы прычыны, не шукаў у карціне назоўнікаў!



Тамара Усава — самая маладая ўдзельніца мастацкай самадзейнасці Бабруйскага раённага Дома культуры. Яна добра выконвае беларускія народныя песні і частушкі. Да Дэкады самадзейнага мастацтва юная спявачка рыхтуе новы цікавы вакальны рэпертуар.

На здымку: Т. Усава на рэпетыцыі.

Фота А. БОРЧЫКА.

